Год II. Красавік 1933 г. № 4 (16).





БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



„Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопіс.**

**Цана асобнага нумару 30 гр.**

**Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.**

**„ год . . . . . 2. „**

**Заграніцу ўдвая даражэй.**

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

// ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!
Беларуская рэлігійная часопісь.
Альбэртын. Красавік 1933 г. № 4 (16)

# Христосъ Воскресе!



На Сьвята Сьвятаў, Урачыстасьць Урачыстасьцяў, Вялікдзень, усім нашым супрацоўнікам, падпісчыкам, чытачом і прыхільнікам, усім братом злучаным і нязлучаным праваслаўным, шчырыя пажаданьні багаслаўленьня Божага, каб усе сыны аднае Бацькаўшчыны злучыліся паміж сабою любоўю Госпада Ісуса Хрыста ў аднэй Яго Ўсясьветнай Царкве.

Рэдакцыя і Адмін. „ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ“.

# ЭВАНГЕЛЬЛЕ

## паводле съв. Іоана, разьдзел 1, 1—17, зач. 1.

*1. У пачатку было Слова і Слова было ў Бога, і Богам было Слова.*

*2. Яно было ў пачатку ў Бога.*

*3. Усё праз Яго сталася, а без яго ня сталася нічога з таго, што сталася.*

*4. У ім было жыцьцё, а жыцьцё было сьвятлом для людзей.*

*5. А сьвятло сьвеціць у цемры, а цемра яго не агарнула.*

*6. Быў ад Бога пасланы чалавек, катораму імя было Іоан.*

*7. Гэты прышоў на пасьведчаньне, каб пасьведчаньне даць аб сьвятле, каб усе верылі праз яго.*

*8. Ня быў ён сьвятлом, але пасьведчаньне даў аб сьвятле.*

*9. Было праўдзівае сьвятло, каторае асьвячае кожнага чалавека, што на гэты сьвет прыходзіць*

*10. На сьвеце быў і сьвет праз яго стаўся і сьвет яго не пазнаў.*

*11. Прыйшоў да сваіх, а свае яго не прынялі.*

*12. А тым, каторыя яго прынялі, даў моц, каб сталіся сынамі Божымі, тым, што вераць у імя яго.*

*13. Каторыя ня з крыві, ані з волі цела, ані з волі мужа, але з Бога нарадзіліся.*

*14. І Слова сталася целам і жыло паміж намі, і мы відзелі ягоную славу, славу як адзінароднага ад Айца, поўнага ласкі і праўды.*

*15. Іоан пасьведчаньне дае аб ім і заклікае, кажучы: гэта той быў, аб каторым я казаў: „Каторы пасьля мяне мае прыйсьці, ён перада мною стаўся, бо перш быў за мяне“.*

*16. І з паўнаты яго мы ўсе ўзялі, і ласку за ласку.*

*17. Бо закон быў дадзены праз Майсея, і ласка і праўда сталася праз Ісуса Хрыста.*

*«Азъ есмь воскрешеніе и животъ»*
*(Іоан гл. 11. ст. 25.).*

Спакойны паўночны блакіт неба іскрыўся залатым жвірам зораў і дрыжаў мігатліва на цудоўным Малочным Шляху. Сярэбраныя струі месячных променяў ціха ліліся на панурыя ўзгоркі Голгофы, сьлізгаліся па гібкіх і гонкіх дрэвах саду Гэфсіманіі, заглядаючы ў кожны таёмны яго куточак. Незадоўга месячык пачаў таксама патроху прыглядацца да паляны, лугоў і ўсіх тых дарожак і сьцежак, па каторых калісь хадзіў Спасіцель. Далей кінуў вокам на стрэхі сьвятога места, аглядаў дакладна сьцены, заглядаючы там і сям адначасна праз вокны ў сярэдзіну некаторых дамкоў. Каціўся так ён сумна і памалу па цёмнай дарозе прастору, абнімаючы сваім вокам штораз то большы круг віду. Раптам уся зямелька юдэйская стала ў бледным, таёмным і поўным суму сьвятле. На невялічкім узгорку стаяў Ерузалім, нецяк выключна ў апошнія дні, паміма Пасхі, несамавіты і сумны. Кругом яго ўзносіліся сярэдняй вышыні ўзгоркі, пакрытыя групкамі дрэваў аліўных, фігавых, а дзе-ня-дзе і вінаградамі. Між гэтымі ўзгоркамі расьцягваліся кедравыя даліны і пышныя лугі, пакрытыя буйнай, пушыстай травой і рознага сорту, у жывых колерах, кветкамі. Па гэтым вось дыване цудоўнага хараства, які патрапіць выткаць прырода, цёк Іордан ціха і чароўна спакойнымі сваімі водамі, падобнымі ў ясную і пагодную ноч да Малочнага Шляху на небе. Доўга ён так прыглядаўся да зямелькі пракокаў і народу калісь выбранага. Прыпомніў пачатак гісторыі іх, сьветлы як неба, шчасьлівы, як вочы дзіцяці, і, ня могучы зьнясьці іх сумнага канца, закрыўшы твар, горка заплакаў... Тымчасам усё разам з прыродай спала глухім, цьвёрдым сном. Панурая ноч залягала ўсюды. Толькі недзе там у апошнім кутку гароду Язэпа з Арыматэі слабы агоньчык кідае ад часу да часу свой блеск на дрэмлючыя ў вялікай жалобе кіпарысы, аліўкі і пальмы. Пры гэтым бледным сьвятле можна было заўважыць некулькі вартаўнікоў, мігаючых досыць часта перад скалістаю сьцяною. Казалі ім пры запячатаванай сынэдрыёнам скале стаяць і пільнаваць днём і ночай цела Расьпятага. Тым больш чутка яе мелі пільнаваць, бо Ён, будучы яшчэ жывым, казаў публічна: „На трэці дзень з памёршых паўстану“. Ціша была вялікая, так што калыханыя ветрыкам лісьці дрэваў можна было чуць. Паслухалі крыху, усюды панавала ціша. Раптам задрыжала зямля і злучыла сваю песьню з сусьветнай песьняй быту. Стражнікі бледныя, як труп, з шырока расплюшчанымі вачыма, з каторых выглядала бязьмежная трывога, упалі на зямлю. У прасторы разьлёгся вялікі сьпеў усяго сьвету: «Госанна»! На ўсходзе неба па-

чало чырванець. Зоры сьвітаньня рабілі штораз то большыя кругі. А стражнікі качаліся ў пыле. Сярод гуку пачалі лопаць скалы. Ламала іх тая самая сіла, якая з нічога вывела сьветы да жыцьця і вызначыла ім адвечныя шляхі. Раптам паявілася над гробам сьвятло, як некалькі сонцаў. Вочы ад яго сьлеплі. Парушылася пліта грабавая. Нейкая нявідомая сіла падняла яе ўгару і адкінула досіць далёка. Стражнікі ад страху і гразы замёрлі. І выйшаў з гробу Той, Каторы казаў калісь народу, што на трэці дзень паўстане з памёршых. Ня выкралі вучні Яго цела. Выйшаў Ён сам моцаю ўласнай: у громах і маланках, у дрыжаньні зямлі, у гымне ўсей прыроды, у яснай хвалі ўсходу, Ён-Тварэц-Бог! Выйшаў, хаця прабілі Яму рукі і ногі, хаця пракалолі Яму бок, узьбілі на галаву цярнёвы вянок, хаця палічылі ўсе Яго косьці. Сьмерць сьмерцяй сваей перамог, а сьвету разам з багаславенствам даў жыцьцё. „Я ёсьць з памёршых паўстаньне і жыцьцё“. Яснасьць заліла ўвесь сьвет. Сьветлыя духі пачалі сплываць на зямлю, каб аддаць чэсьць Цару будучага веку.

І прывіталі Яго дзьве песьні неба і зямлі, зьліўшыся ў адну, — у адну песьню шчасьлівай вечнасьці:

„Христосъ Воскресе!“

*а. Б. П*

## *ХРЫСТОС ЎВАСКРОС.*

*Хрыстос Уваскрос! Якая сладасьць*
*Павінн. ў сэрцы нашым быць!*
*Ці-ж ні вялікая нам радасьць?*
*Хрыстос Уваскрос! І будзе жыць!*

*Хрыстос Уваскрос! Як міла слухаць!*
*Сяньня брат брату й руку жме*
*Ды ў пацалунку сваю чуласьць*
*Яму ён з сэрца аддае.*

*Хрыстос Уваскрос! І ў нас, далёка*
*Ад Вашых ветлых, мілых хат,*
*І ў сэрцы чуем мы глыбока,*
*Што звоніць родны дзесь набат.*

*Хрыстос Уваскрос! Віншую, брацьця,*
*Славамі чыстымі, сьвятымі.*
*Хай там, у кожнай роднай хаце,*
*Яны Вам будуць дарагімі!*

**Янка Невук.**

# Сьмерць і пахаваньне сьв. пам. А. Уладзіміра Піонткевіча Т. І. Пратаігумэна Усходняе Місіі.



О. Пратаігумэн Ўл. Піонткевіч.

Увечары з жывым захопленьнем укладаў з а. Міністрам пляны на вакацыі, сьвяты і інш. У чацьвер рана 23.III. настолькі чуўся ў сіле, што выбраўся на Сьв. Літургію а 7 гадз., якую служыў а. Зомбэк. Апранены ў белы епітрахіль заняў месца на крэсьле ў кутку за іконастасам з левага боку. Выглядаў больш як звычайна змучаным і бледным. Пасьля Вялікага Выхаду пры словах: „Возлюбимъ другъ друга“ сьвяшчэньнік заўважыў, што а. Пратаігумэн пачынае хістацца. Дык і пасьпяшыў з падмогаю, а за ім прыбеглі з царквы навіцыянты. Паклікалі а. Неманцэвіча, які пасьпешна ўдзяліў паміраўшаму апошняга памазаньня. А. Пратаігумэн два разы лёгка ўздыхнуў і ўжо ня даў

больш ніякага знаку жыцьця. Адна з сёстраў-манашак прабавала яшчэ чуціць яго ўколам, але дарма. Сядзеў бледны з пахіленаю галавою і неадступнаю падпораю старасьці палкаю ў руцэ. Сумная вестка адбілася галосным рэхам нават далёка па-за Альбэртынам. У той самы дзень па палудні надышлі кондоленцыйныя дэпэшы ад Я. П. а. Нунцыя і Япіскапа Пшэзьдзецкага. Назаўтра ўночы прыехаў з Дубна а. Рэктар Дамброўскі з дыяканам. У суботу рана прыехаў з а. вялікапольскім Провінцыялам Я. П. Япіскап Чарнэцкі. Тымчасам памёршага апранулі ў рызы: блакітны падрызьнік і серабрыстую рызу і выставілі ў прытворы. На грудзёх у памёршага ляжала кніга Эвангельля. Навіцыянты, паводле ўсходняга абычаю, па чарзе чыталі эвангельле. Адведваўшых было вельмі шмат, асабліва ўвечары. У суботу па палудні прыехаў таксама з Варшавы малодшы брат памёршага праф. Браніслаў Піонткевіч і а. Мацэвіч з Вільні. Пахаваньне мела адбыцца ў нядзелю а 3 гадз. па палудні. А 10-ай з пал. раніцы служыў паніхіду Япіскап Чарнэцкі. Ранешнім цягнікам прыехаў з Львова рэктар Духоўнае Ўсходняе Акадэміі а. Сьліпый і а. Пракуратар Охэндушко з Кракава. Ня гледзячы на нявыгадны для пастыраў час, сабралася крыху ваколічнага духавенства на чале з а. Дзеканам з Слоніма. Чатырох духоўнікаў у рызах, а паміж імі і а. Рэктар Сьліпый вынясьлі труну сярод нязьлічанае масы народу. Катафальк памясьцілі на высокай тэрасе перад цэрквою, дзе таксама адпраўлялася ўрачыстая жалобная служба. Унізе тымчасам сталі дэлегацыі з вянкамі. Служба працягнулася больш як 2 з паловай гадзіны. Пасьля былі сказаны прамовы. Першым зьвярнуўся да народу Я. П. Япіскап парасейску і ў простых, але гарачых словах парушыў апостальскія заслугі памёршага, падчырківаючы асабліва дух ахвярнасьці і цьвёрдасьць у вядзеньні унійнае справы. Пасьля Я. П. прамаўляў а. Рэктар Сьліпый паукраінску, сардэчнымі словамі разьвітваючыся з памёршым. Ад імя прыходу разьвітваўся з памёршым пабеларуску а. Неманцэвіч гэткімі словамі:

*«Возлюбимъ другъ друга да единомысліемъ исповѣмы.»*

(*Сл. в Сьв. Літ.*).

„Гэтыя словы Сьв. Літургіі былі праводнаю зоркаю для сьв. памяці а. Ўладзіміра, Пратаігумена Альбэртынскага Кляштару. Госпад Бог пазволіў яму памёрці ў сьв. месцы, у аўтары, калі там адпраўлялася сьв. Літургія, а кананьне распачалося у той момант, калі сьвяшч. чытаў: „Возлюбимъ другъ друга“...

Ня можа быць любові Бога бяз шчырай любові бліжняга, а. сьв. памяці а. Уладзімір любіў ад усяго сэрца бліжняга. Каб ляпей служыць бліжняму, а. Уладзімір паступіў у Таварыства Ісусава. Праз 52 гады верна служыў у гэтым Таварыстве, займаючы найтруднейшыя і найважнейшыя становішчы.

Ад 1925 году, а. Уладзімір меў на ўвазе другую палову вышэй прыведзенага сказу: „да единомысліемъ исповѣмы“.

Атрымаўшы загад свае ўлады быць кіраўнікам Усходняе Місіі, усёй душою быў адданы важнай справе злучэньня адарваўшыхся ад Скалы Пятровай. Добра ведаў і глыбока быў пераканаены ў тым, што Ісус Хрыстос заснаваў толькі адну царкву, і гарачым пажаданьнем Збаўцы ёсьць, каб усе былі адно: „Да всѣ едино будутъ“ (Іоан.17,21).

У сваёй працы меў а. Уладзімір ня мала труднасьцяў і перашкод ня толькі ад чужых, але і ад сваіх, што вельмі балюча ад'звалася на яго збалелым сэрцы. У некарысных абставінах для працы сьв. памяці а. Уладзімір вельмі многа зрабіў для нашае Місіі, можна сказаць ён яе стварыў. Калі прыехаў да Альбэртына, сяброў Місіі было ўсяго 7 чалавек, а цяпер яна налічвае 67; застаў малы, недастасаваны да манастырскага жыцьця, дом, а пакінуў вялікі і прыгожы манастыр.

Нябожчык быў праўдзівым патрыётам, любіў шчыра свой народ і сваю бацькаўшчыну, але гэта не перашкаджала яму любіць і шанаваць іншыя народы, іх мову і іх звычаі. Любіў беларускі народ і шанаваў усімі пагарджаную, вельмі часта нават і самымі беларусамі, беларускую мову. За яго кіраўніцтва Місіяй і дзякуючы перад усім яго клопатам пачала выходзіць першая рэлігійная уніяцкая часопісь пабеларску „Да Злучэньня“. Беларускі народ дзісяка разлучаецца назаўсёды з сваім вялікім прыяцелем і праз мае вусны прыракае над ягонаю магілаю, што не забудзе хутка а. Ўладзіміра Піонткевіча і ягоных заслуг. Сусьветная Царква Хрыстова губляе праз сьмерць а. Ўладзіміра аднаго з найлепшых місіянэраў, Тавар. Ісусава аднаго з найбольш заслужаных сяброў, а Альбэртынскі Кляштар Усход. Місіі разьвітваецца назаўсёды са сваім умілаваным айцом.

Дарагі а. Пратаігумэн, мы цябе любілі, як дзеці свайго бацьку, мы сябры Ўсх. Місіі, твае гадунцы, прыракаем, што не забудзем свайго найдаражэйшага айца, будзем за яго маліцца.

Дарагі Айцец Пратаігумэн! Ад імя прыхаджан і ўсіх жыхароў Альбэртына і я дзякую Табе, Дарагі айцец, за пра-

цу і ахвярнасьць. Асабліва выяўляю тутака, пры вечным разьвітаньні, ўдзячнасьць найбяднейшых, каторым праз мяне памагаў у іх крытычным палажэньні.

Усе мы тутака сабраныя разьвітваемся з Табою, Ахвярны Працаўнік за сьвятую ідэю злучэньня ў адно хрысьціян, і прыракаем Табе, што будзем маліцца, каб Госпад Бог прыняў у царства нябеснае. „Покой, Спасе нашъ, съ праведными раба Твоего, и сего всели во дворы твоя".

Амін.

Пры ўжо надходзіўшым змроку яснага дня сфармаваўся вялізарны паход. За крыжам ішла згорнутаю колённаю школа С.С. Непокалянак, далей дэлегацыя той-жа школы нясла вянок з надпісам: „Świętemu zakonnikowi i wielkiemu patrjocie," пасьля ішлі вянкі Апостальства Малітвы, Лацінскае Круцыяты, а сярод двух радоў сябровак Апостальства са сьвечкамі ішла Лацінская Круцыята, усходняе прадшкольле з вянком, Усходняя Круцыята з штандарам, нарэшце манашкі і клір. Чатыры разы паход затрымліваўся ў дарозё дзеля адсьпяваньня чатырох эвангельляў. Пад готычнымі ценямі соснаў могільніка замігацеў рой сьвечак. Пасьля царкоўных сьпеваў лацінскае духавенства адсьпявала „Libera me" і „Salve Regina." Школьны хор С.С. Непокалянак выканаў „W ciemnej mogile", пасьля а. Дзекан запяяў „Anioł Pański", што было падхоплена магутным хорам народу. У канцы а. Провінцыял падзякаваў ад імя Таварыства і Місіі ўсім прысутным за апошнюю услугу. Магіла затанула ў зяленіве. Нават і праваслаўныя, што ніколі ня сходзіліся з сьв. п. а. Пратаігумэнам, выказваюцца аб ім з вялікім прызнаньнем і пашанаю. А заўзяты яго праціўнік (Харкевіч) зьмяшчае ў віл. „Słowie" зусім не благі і спагадлівы нэкролёг.



# Пастырскае пісьмо

**Я. В. Архіяпіскапа Віленскага Рамуальда Ялбжыкоўскага аб унійнай працы.**

Прападобнаму Духавенству і Любым у Хрысьце міранам епархіі прывітаньне ў Госпадзе!

У часе пастырскіх візытацыяў я шмат разоў даваў выясьненьні любым у Хрысьце Госпадзе міранам мае епархіі аб адзінстве Сьв. Царквы, аб патрэбе працы ў гэтым кірунку, я адказваў на закіды, скіроўваныя проці унійнае працы, паказваў на іх неўласьцівасьць, беспадстаўнасьць і шкоднасьць. Я быў перакананы, што вытрыманая унійная праца ў духу Хрыстовых заветаў, а таксама час — гэты найлепшы лекар на розныя недамаганьні — зробіць рэшту. і розныя непаразуменьні і ўпярэджаньні ў кароткім часе скончацца, рэалізацыя адзінства Царквы Хрыстовае на нашых Крэсах тым памысьней і без перашкодаў будзе разьвівацца. І па гэтай вось прычыне я не даваў дасюль ніякага адказу на мэморыял, даручаны мне ў траўні мінул. году, а скіраваны проці П.П. А.А. Езуітаў і іхняе унійнае працы. Цяпер бачу, што вельмі оптымістычна я глядзеў, бачу, што трэба палажыць шмат падгатоўчае працы на унійнай ніве, трэба ральлю гэтую старанліва абрабляць цераз шчырыя і старанлівыя малітвы да Падаўцы ўсякага дабра, аб расе нябеснае ласкі, і з верай разьлічаць на тое, што сам Бог дасьць пажаданы рост зробленаму засеву.

У апошнія часы аднавіліся атакі проці унійнае працы ўва ўсходня-славянскім абрадзе, а пасярэдня з гэтае прычыны проці Апостальскае Сталіцы. Справа гэтая тым болей прыкрая, што атакі гэтыя зьявіліся і ў некаторых органах віленскае прэсы, што адным з удзельнікаў ёсьць паважаны як мага і заслужаны грамадзянін-земляўласьнік, каталік і шчыры ды гарачы патрыёт, які выступіў з артыкулам „Tertius gaudens“. Я абавязаны даць сведчаньне праўдзе. Закіды гэтыя, праўда, скірованы беспасярэдня проці пашыральнікаў унійнае працы, а галоўна проці П.П. А.А. Езуітаў з Альбэртына, аднак пасярэдня ўдараюць яны ў ідэю рэлігійнае уніі і ў Апостальскую Сталіцу. Дзеля гэтага, нават найдалікатней кажучы, трэба іх назваць высока неўласьцівымі: выразнае жаданьне і загад Хрыстоў „каб усе былі адно... каб была адна аўчарня і адзін пастыр“ (Іоан 10, 16). Сьв. Каталіцкая Царква ня можа гэтаму здраджваць, спаўняе гэту місію, аблягчае, прызнаючы пэўныя розьніцы ў рэлігійных абрадах, дамагаючыся адзінства ў аснаўных рэчах.

Беспадстаўна стаўляецца закід, што пропагаваньне ўсходня-славянскага абраду затрудняе праваслаўным прый-

маньне каталіцызму ў лацінскім абрадзе. Але-ж у гэтым сэнсе кожны мае поўную свабоду, можа выбіраць абрад, які яму больш трапляе да перакананьня, можа прымаць лацінскі абрад, і шмат хто гэта робіць. Сьв. Царква нікому сваіх асноваў не накідае сілаю і гвалтам, таму што дух Хрыстовае навукі — гэта дух любові, адзіна годная, заўсёдная і трывалая аснова.

Беспадстаўны таксама і закід русыфікацыі цераз усходня-славянскі абрад, і закід тым болей крыўдзячы, што пашыральнікі гэтае працы стаўляюцца нароўні з Мураўёвым, Жылінскім, Сэнчыкоўскім і з іх ганебнаю і пераваротнаю дзейнасьцю. Магчыма, што ёсьць пэўныя памылкі нажаль і таго ці іншага місіянэра або прыхільніка ўсходня-славянскага абраду — гэта справа чалавечая і зразумелая, але гэта не дае права на асуджваньне самае справы. Царква кіруецца і павінна кіравацца толькі духам любові навукі Хрыстовай, павінна быць заўсёды вольная ад усялякіх палітычных ці партыйных пaглядаў, нікому ня можа накідаць чужое мовы, нікога ня хоча дэнацыяналізаваць, але радзіць заўсёды галасіць рэлігійныя праўды тэю моваю, якую ўжывае мясцовае насяленьне, сярод якога апостальствуе і на якой хоча чуць галошаныя навукі: Паляком гаворыць папольску, Ліцьвіном -- палітоўску, Італьянцам — паітальянску. Вось-жа, калі жыхары слонімскага павету ці іншых ваколіцаў жадаюць сабе, каб да іх прамаўлялі ў уніяцкіх цэрквах парасейску, дык духоўнікі ня могуць накідаць ім іншае мовы, польскае ці беларускае, а калі-б жадалі польскае мовы, дык ніхто ня будзе накідаць ім расейскую.

Будучы япіскапам, я не перастаў быць Пляком. І восьжа, з усёю сьведамасьцю адказнасьці за кожнае слова, адважваюся заявіць, і як япіскап і як Паляк, што унійная праца не зьяўляецца шкоднаю ні для Польскае дзяржавы, ні для Сьв. Царквы, але перашкаджаньне гэтай працы — вельмі шкоднае ня толькі ў сэнсе рэлігійным або для Сьв. Царквы, а і ў грамадзкім сэнсе—Рэспублікі. Сярод дванаццацёх Апосталаў знайшоўся здраднік Юда, здараліся гэткія „Юды“ няраз у гісторыі Царквы, прызнаём гэта шчыра, але ані трошкі гэткія факты не даказваюць, — каб гэта было віною самой Царквы, або каб шкодзіла сьвятасьці Хрыстовае навукі. Не пярэчу, што і да прыхільнікаў Царкоўнае Уніі мог ці можа нехта прылучыцца з праваслаўя аблудна і з пераваротнымі замерамі, але ані трошкі гэта не абніжае вартасьці унійнае ідэі, напэўна ўсялякае ліхазельле хутчэй ці пазьней дасьць пазнаць сябе і будзе выпалата або прасеяна. Для Польшчы ізноў бяз сумліву карысьней, калі грамадзяне яе, Расейцы ці Беларусы, цяпер праваслаўныя, будуць цясьней зьяднаныя і злучаныя духо-

ва і рэлігійна з агулам грамадзянства, калі думкамі сваімі будуць зьвяртацца не на ўсход, да Масквы, а хутчэй да Рыму, да сталіцы хрысьціянства.

Таксама ня сьведчаць блага аб унійнай працы і захады сэктантаў-годуроўцаў, як асьцерагае артыкул „Tertius gaudens“, хутчэй зьяўляюцца яркім доказам шкоднасьці барацьбы з унійнаю працаю. Гэта-ж той сэктанскі псэўда-архіяпіскап не зьвяртаецца да прыхільнікаў уніі і унійнае працы, а да праціўнікаў яе і па прычыне іх выступленьняў. Ці ня трэба датарнаваць многазначных словаў навукі Хрыстовае: „Па пладох іхніх пазнаеце іх“.

Вось-жа ня трэба перашкаджаць шырэньню рэлігійнае уніі, але ўсімі добрымі спосабамі, па меры сілаў і магчымасьцяў, хутчэй трэба яе падтрымліваць, добры і прыкладны Паляк-каталік ня можа быць у радох праціўнікаў ідэі унійнае, Хрыстовае ідэі.

Любыя ў Хрысьце міране Епархіі, у важным адзінстве Царквы і унійнае працы трымайцеся верна словаў сьв. ап. Паўла: „Тое чуйце, што ў Ісусе Хрысьце“ (Філіп. 2, 5) і будзеце добрымі сынамі, дочкамі Маткі-Царквы Сьв. і дзеяльнымі ды карыснымі грамадзянамі Краю.

*(—) † Р. Ялбжыкоўскі*
*Архіяпіскап Віленскі.*

---

# Што нас аддаляе ад нашага шчасьця?

*О, як-бы я хацеў з пачатку,*
*Дарогу жыцьця па парадку*
*Прайсьці яшчэ раз, авірнуцца,*
*Сабраць з дарог каменьні тыя,*
*Што губяць сілы маладыя!*
*К вясьне-б маёй хацеў вярнуцца.*

Так вось гаворыць наш вялікі паэт Я. Колас. Відаць тыя каменьні на дарозе жыцьця, да каторага кожная душа празначана, добра даліся ў знакі, калі парываецца скідаць іх з дарогі,

Што-ж ёсьць тымі каменьнямі, перашкодамі на дарозе да шчасьця?

Людзі думаюць, што няшчасьцямі ёсьць розныя беды матэрыяльныя, затрымоўваючыя чалавецтва на дарозе поступу, аддаляючыя яго ад шчасьця.

1. Адны кажуць: войны ды іх наступствы — убоства, галіта, голад, хваробы, калецтвы, сіроцтвы — ёсьць найбольшым няшчасьцем, прыгнятаючым народы;

2. Другія — катаклізмы ў прыродзе: землятрасеньні, паводкі, засухі... называюць найстрашнейшым горам для людзей;

3. А ўсе хіба за найбольшае няшчасьце — лічаць сьмерць.

Праўда — гэта страшэнныя злыбеды, прыносячыя чалавеку многа болю, цярпеньняў і мукаў, праўда, што ёсьць вялікім няшчасьцем вайна, каторая абяздольвае край на дзесяткі і сотні гадоў... Хто-ж з гэтым сяньня ня згодзіцца! Ці-ж мы не пераджывалі гэтага?.. Ці-ж перад нашымі вачыма не ўстаюць тыя крывавыя, страшэнныя падзеі, калі тысячы, мільёны маладых, юнацкіх адзінак падалі, бы каласкі, падсечаныя касою?.. У каго-ж яшчэ і сяньня не праймаецца жудасным жахам душа ад тых пажараў і гарматных кананадаў, падчас каторых гарады, тысячалецьцямі цэлымі будаваныя, і вёскі з дабыткам сваім ды ўраджаямі, мазалём крывавым здабытымі, — ішлі з полымем пякельным ды з дымам?!... А за тымі стаўпамі дыму і непералічанымі полчышчамі грозных вояў, нясучых на штыхох сваіх і ў бомбах яд сьмерці, цягнуліся яшчэ даўжэйшымі грамадамі счарнелыя, замёрзшыя ад голаду і холаду, выгнаныя з радзімых гнездаў сваіх, бяздомныя, шукаючы мякіны, лісьцьця, або кары дзеравянае, ці якое здыхляціны, а часамі на'т і чалавечыны, каб палажыць на галодны зуб; а калі і таго не хапала, дык выступала тады трыумфальна на арэну з цэлымі радамі сваіх прыслужніц — розных хвароб — агідная гаспадыня нядолі — сьмерць і зьбірала свой ураджайздабычу...

Ох, мой Божа! Каму-ж ня страшная тая грозная пані сьмерць?!... Хоць-бы прышла яна і ў іншых варунках... калі чалавек разлучаецца з тым, і з тымі, да каторых так прывязаў сваё сэрца ды адходзіць у няведамы стан быту... Каму-ж яна ня страшная?!...

Дык, паўтараю, слушна людзі лічаць гэныя жыцьцёвыя зьявы за гора, за няшчасьце, але ў сутнасьці ня гэта лічыць трэба за найбольшае няшчасьце, за найбольшыя каменьні, загароджваючыя нам дарогу да абсолютнага шчасьця.

Часамі Бог выкарыствае іх для нашага збаўленьня.

Ёсьць адно зло на сьвеце, адно няшчасьце, каторае

запраўды ёсьць злом і горам нашым найбольшым: гэтым злом ёсьць **грэх**.

Так, грэх, моральнае зло, моральны бунт, вайна проціў Бога, моральны голад ласкі, моральная хвароба, калецтва — агідныя навыкі — вось што ёсьць нашым найстрашнейшым горам!... Грэх — нарушэньне Божага, натуральнага, грамадзкага права — ёсьць нашай згубай, бо грэх родзіць усе тыя матэрыяльныя беды. Вайна, спусташэньне — вынікае найчасьцей з прагавітасьці, злосьці, пыхі і зайздрасьці чалавечае. Хваробы, голад, жабрацтва як-жа часта бываюць наступствам неморальнага, блуднага жыцьця... Мой Божа! сколькі разоў нас ставіла ў труднае палажэньне нашая лёгкадумная няўстрыманасьць, брудная распуста, п'янства, ці непаслушэнства!... Сколькі разоў мы сьлёзы пралівалі з прычыны нашае дурнаты!?...

Праўда, часамі церпім за грахі чужыя, за грахі можа бацькоў, суседзяў, нашых ворагаў, але найчасьцей — за свае.

Гляньце вы на п'яніцу няшчаснага, на распусьніка, гультая — гэта-ж калека! Мае здаравенныя рукі і ногі, а працаваць ня хоча. Спаралiжаваны чалавек! Ня толькі ня хоча дый ня можа: грэшнае жыцьцё сілы дашчэнту з яго высмактала. Гляньце на разбойніка, ці ня ўздрыгнецца ад страху і абурэньня вашае сэрца?!...

У аколіцы Берасьця, у лесе, падчас сібірных маразоў, здарыўся няшчасны, страшэнна жудасны выпадак: знойдзена трое малалетніх, нявінных, скарчанелых дзетак, прытуленых адно да аднаго і з соплямі замерзлых сьлёзак, што плылі ім з плачлівых вочак. Ня можна было ўстрымацца ад сьлёз, гледзячы на гэныя ахвяры. То-ж праз некалькі дзён грамадныя натаўпы людзей з болем прыглядаліся да гэных мучанікаў, прывезеных у горад. Тысячы цікавых наглядчыкаў перавярнулася, дзівячыся зьдзічэньню сучаснага чалавека і дапытваючыся спраўцы гэнага вялікага праступку. А ведаеце, браты, хто ім быў? — Родны бацька: каханка няласкава глядзела на астаўшыхся сіротак, дык каб дагадзіць яе дый сваім дзікім капрызам — выкінуў, як шчанят, на мароз. Верыць мо' ня хочаце такой страшнай гісторыі, але-ж мусім верыць, бо нажаль яна праўдзівая...

Ах! Мой Божа! А сколькі-ж такіх выпадкаў публікуюць сяньняшнія часопісі!?...

Страшны грэх у жыцьці адзінкі, а яшчэ ён страшнейшы ў жыцьці грамадзкім. Там сустрэнем ужо не адну звырадмелую волю, не адзін каўтун, але сотні, тысячы зьдзічэлых воляў, перарождаўных у страшэнны вулькан злосьці, ненавісьці і брудаў, каторы, бы тая дзікая бура, пустошыць, глуміць усе здабычы шляхотнае часткі чалавецтва, каторы зьдзекуецца над слабейшым, душыць яго, абдзірае. З гэтых

вульканаў выбухаюць войны і грамадзкія перавароты, заліваючыя морам крыві і сьлёз народы і развальваючыя дзяржавы... А як-жа страшным ёсьць грэх у адносінах да Хрыста Укрыжаванага.

„О, вы ўсе, што праходзіце дарогаю! Гляньце, ці ёсьць дзе боль страшнейшы, як мой!?...“ — скардзіцца расьпяты на крыжы, замучаны Хрыстос. І, запраўды, тут вось збунтаваная воля чалавека дапяла найвышэйшае ступені дзікасьці. Укрыжаваць Бога, Дабратварыцеля свайго Адвечную Любоў і Праўду — гэта такі праступак, каторы ня месьціцца ў паняцьці нармальнага чалавека!!...

Больш нічога горшага ня можна ўжо падумаць і ўявіць сабе!...

Але было-б паўбяды, каб грэх толькі ствараў пекла тут, на зямлі, — ён стварыў у мільёны разоў горшае пекла за гробам, ён цягне за сабою адказнасьць без параўнаньня цяжэйшую ў будучым жыцьці...

О, браты мае! Трэба было-б мець нялюдзкія вусны і здольнасьці, трэба мець словы, як агонь гарачыя, як брытва ці меч вострыя, як гром грозныя, каб належна апісаць вам пекла...

Каб сабраць увесь жар агнёў, горычы, боляў, мукаў і стогнаў, каб злучыць усе прыкрасьці, якія толькі існавалі і існуюць ды будуць існаваць на сьвеце ды зьліць іх у адзін безьбярэжны акіян цярпеньня,—то гэта быў-бы толькі слабы абразок вечных мукаў пякельных, гэта была-б толькі малюпаценькая кропелька ў параўнаньні да несканчальных цярпеньняў аду...

О, Госпадзе!.., Душа замірае ад страху і трывогі пры адным толькі ўспаміне аб гэтых муках!!... О, Божа! Нашто-ж адкрыў Ты перад намі такую бяздонную пропасьць пякельную!? Няўжо-ж яна раўняецца нашым праступкам?...

Браты мае дарагія!

Ды ня Бог стварыў для нас пекла, а той-жа самы праклятый грэх!... Бог стварыў для нас толькі неба — вечную шчасьлівасьць, а грэх абцінае нам крыльля да неба і ў пекла цягне.

Адзін набожны вучоны, размысьляючы аб пекле, прыраўняў грэх да гострае брытвы.

Уявеце, — кажа, — сабе высокі — ад зямлі да неба — стоўп з множствам, множствам брытваў, паўтыканых дагары астрыём, кругом, ад нізу аж да самага верху. Па гэтым стаўпе хоча падняцца чалавек угару, дзе бачыць захапляючую райскую роскаш. Нічым ня ўстрыманае жаданьне і прагнасьць таго шчасьця магутнаю сілаю цягне яго к сабе, дык ня можа сьцярпець, пнецца ўгару да яго... Хапаецца за вострыя брытвы рукамі і нагамі, а яны абцінаюць яму рукі і ногі, і не пазваляюць беднаму ані на крышку

падняцца... І так вечна прабуе, вечна рвецца і вечна адпадае ў бяздонную пропасьць мукаў... Спытаецеся: чаму-ж ён такі нерастаропны, што па такой „драбінцы“ да шчасьця пнецца? Так! Браты Мілыя! Праўда, што нерастаропны! Сам вінен, што такую дарогу сабе выбраў! Сам вінен, што ідзе дарогаю граха!

1. Грэх ня зьбліжае нас да шчасьця, толькі ад яго аддаляе...
2. Грэх творыць для нас пекла на зямлі...
3. Грэх творыць для нас пекла за гробам.
4. Грэх творыць з чалавека — дзьябла...
5. Грэх крыжуе Адвечную Праўду і Любоў.
6. Грэх — пачатак і канец зла!

*Надбужны.*

---

# Хрыстос ўваскрэсе!

*«Хрыстос ўваскрэсе...»*
*Гэту песьню нясе*
*На хвалях сваіх звон.*
*Рвануў ён сэрца мне,*
*Дрыжаць там струны аж на дне,*
*Як песьню звон нясе:*
*Хрыстос ўваскрэсе...*
*Былі сярод і гора*
*Хвілінкі шчасьця у мяне,*
*Хаця й прашлі так скора —*
*О, непадобныя, о не!*
*Да тых, што звон нясе:*
*Хрыстос ўваскрэсе...*
*І ў гэты дзень той звон*
*Тауне ён сэрцы рвець*
*Як гэту песьнь нясець.*
*Таўны імя — мільён...*
*Які-ж, пытаю, чарадзей*
*Усіх, бяз розьніцы людзей*
*І бедных і багатых,*
*Ў палацах і па хатах*
*Так зьліў-бы сэрцы ў адзін тон,*
*Як ў гэты дзень той звон?*

*Я. Быліна.*

# Шляхам абновы.

**Браты Мілыя!**

Гляньце! Вясна на дварэ! .. Як сонейка ласкава разьвесяляе нашу зямельку!... Як зганяе лёд і сьнягі прыгоркаў ды родных нашых далінаў!... Яшчэ нядзелька пройдзе, другая і над зазелянелаю нівою нашай засьпявае сваю паднебную песьню мілы наш жаўранак...

Гаспадар даўно ўжо ня сьпіць. Штодзень ён старанней снуе ля гаспадаркі: падкармляе волікі, ладзіць сохі і бораны...

І вось бачым ужо яго пры сасе на ніве. Зблііжмася да яго і спытайма: Мілы наш радзімча, хлебаробе, — чаго так рана вышаў ты на поле?

...„Трэба сеяць, браткі, — адкажа нам, — каб меў што пасьля жаць..."

Мілыя!

Бачу вясну ў душах вашых, сагрэтых сонцам Божай ласкі. Зваліліся з іх ланцугі моральнае няволі, сплылі разам з сьлязьмі жалю і пакуты... І чутно ў малітвах вашых рэха чыстага, яснага голасу моральнага здаволеньня, бы тая паднебная песьня жаўранка...

Выйдзем жа і мы, браты і сёстры мае, на ніву нашай душы ды пачнём тамака сеяць, каб пасьля мелі што жаць!...

Што ж будзем сеяць? — Зярнё — добрых чынаў, сталых, сыстэматычных, выплываючых з волі і розуму, ласкай Божай асьвечаных, а родзячых добрыя навыкі — цноты.

Не забывайма прыказкі: „што пасееш — то і пажнеш"!... Пасееце ў душах добрыя цноты — зьбярэце ў пазьнейшым жыцьці заслугі! А пасееце дрэнныя навыкі — збярэце адказнасьць і гора!...

Дык да працы клічу Вас цяпер, мілыя мае радзімцы! Да ўзбагачаньня душы добрымі думкамі і пачуцьцямі, ведаю ды ўмеласьцю, да працы самаўзгадаваўчай, ідэйнай над сваім характарам заву Вас сёньня, родныя адраджэнцы!...

Будзьце падобнымі да тых работніц-пчолак, каторыя зьбіраюць з пахнючых кветак прыгожых салодкі нэктар! Але, мёд, кажу, зьбірайце, а не тандэту-сахарыну! Здаровую веду, — а не псэўда-навуковыя лібэральныя самадурствы!

Будзьце падобнымі да тых работніц-мурашак, каторыя працаю сваёю задзіўляюць сьвет і перамагаюць ворагаў, а самахвярнасьцю няраз застыджаюць людзей!

Будзьце адважнымі, як тыя першыя хрысьціяне, каторыя гатовы былі на мукі за Хрыстовыя адраджэнскія ідэалы!

Ня можна сяньня быць індыфэрэнтнымі, вялымі, трусьлівымі вызнаўцамі Хрыста! Сяньня трэба адважных, заўзятых Паўлаў, гарачых Францішкаў, Язафатаў ды глыбокадумных сьв. Тамашоў, каб запэўніць перамогу праўдзе над злом і маною, каб Хрысту назад адваяваць панаваньне над сьветам! Сяньня трэба нам сільных, магутных, сталёвых характараў, волатаў духа, каб падняць наш бяздольны народ, каб запэўніць Бацькаўшчыне пачэснае месца сярод народаў. Моральныя калекі Бацькаўшчы не падымуць!...

Як-жа вытрываць на добрай дарозе!

1, Будзь пакорным, не спадзявайся на свае сілы. Маліся, прасі вытрываласьці. Калі ўмееш прасіць штодзеннага хлеба, умей-жа прасіць і дароў для душы...

2, Уцякай ад граха, як ад вужа ядавітага!

3, Ахвотна карыстай з добрых Божых натхненьняў (добр. ахвоты). Калі не марнавацімеш, Бог табе давацімe іх штораз болей. У Бэрліне здарыўся такі выпадак. Захварэла цяжка ў аднэй сям'і дачка адзіначка; каб не над'звычайныя стараньні і здольнасьці пэўнага лекара, бедная дзяўчынка ў маладым веку разлучылася-б з гэтым сьветам і мілымі сваімі бацькамі, каторыя з любові цанілі жыцьцё дзіцяці вышэй за сваё. Пасьля выздараўленьня дочанькі, запрасілі тыя бацькі доктара ў госьці, каб пры гэнай нагодзе адудзячыцца дабрадзею доктару. Пасьля пачастунку, калі дзяўчынка падала доктару залатую цыгарніцу, той нахмылены адказаў: здаецца жыцьцё паненкі даражэй каштуе за гэны дар, які мне суліш, ня стыд было-б заплаціць за мой труд якімі-нібудзь 300 маркамі. Дзяўчынка пачырванеўшы хутка адчыняе няпрыняты падарак, у каторым ляжала прыгатаваных ня трыста, але 500 мар., адлічае 300 і падае доктару, кажучы:«ах, як шкада, пане доктар, што Вы не пазволілі сабе шчодра адудзячыцца!»... Падобна і Бог паступае з тымі, каторыя марнуюць яго ласкі.

4, Далей — рабі добрыя пастановы штодня і старайся выпаўняць іх.

5, Падтрымоўвай добры сьвяты жар духа праз выкананьне рэлігійных абавязкаў. А перш за ўсё прыступай часта і добра да споведзі, каторую сяньня на'т і некаталікі прызнаюць за найлепшы спосаб самаўзгадаваньня (Фоерстэр).

Хай вас не палохаюць ворагі вашай душы: слабасьці прыродныя, пакусы, згубныя ўплывы бязбожнага сьвету і благія нахілы! Памятайце, што пойдзеце да працы з Хрыстом, каторы сказаў: „Я перамог сьвет!" Вось-жа заўсёдны жывы, блізкі контакт з Хрыстом, яго навукай, жыцьцём сьвятым, ідэальным ды з ягонай установай—Царквою сьвятою—дасьць Вам магчымасьць вясьці духова-ўзгадаваўчую працу над самым сабою! І...паможа Вам орыентавацца на шырокай арэне грамадзка-адраджэнскай працы...

Браты і сёстранькі мае дарагія!

Вось чакае Вас пры сваім стале Боскі наш Прыяцель і Кіраўнік... Чакае і кажа: „сыну, дочанька дай мне сэрца тваё! А Я дам табе сваё Цела і Кроў, каб уліць свае сілы ў жылы твае... Хто спажываць будзе маё Цела і піціме маю Кроў—жыць будзе навекі!“...

...Я Дарога і Праўда, і Жыцьцё!... Хто за мной ідзе, ня блукае ў цемры!...

Дык адкрыйце-ж Яму свае сэрцы, хай прыдзе і загаспадарыць у іх.

*П. Т.*

---

# Наш адказ.

У двох папярэдніх нумарох адказваў на закіды і вымыслы, якія знаходзяцца ў праваслаўным календары на 1933 год у артыкуле „Что такое унія „восточнаго обряда“ и почему мы боремся съ ней?“, а ў гэтым нумары яшчэ застаецца мне на даканчэньне адказаць на некалькі сказаў гэтага артыкуку.

1. **„Няпрошаныя рупліўцы аб нашым збаўленьні,**—чытаем у артыкуле,—**вельмі хутка застануцца, як гаворыцца, пры разьбітым карыце“.**

Аўтор артыкулу пад разьбітым карытам разумее няўдачу працы над злучэньнем, мы аднак-жа, гледзячы на добры пачатак сьвятой справы злучэньня хрысьціян і яе расьцьвет, маем права пад сказам „разьбітае карыта“ разумець штосьці іншае, а тым іншым будзе нязлучанае праваслаўе. Ці вельмі хутка гэта будзе—ня ведаем, але толькі напэўна ведаем, што калісьці злучэньне хрысьціян мусіць прыйсьці, бо сам Ісус Хрыстос сказаў: **„І будзе адно стада і адзін пастыр“** (Іоан 10, 16).

2. **„Чэсныя палякі,—так піша далей аўтор артыкулу,—пачынаюць актыўна выступаць з трэбаваньнем спыненьня дзейнасьці „ўсходняга абраду“.**

Гэта праўда, што праца над злучэньнем хрысьціян, а ў нас асабліва над злучэньнем хрысьціян беларусаў, ня сустрэлася з прыхільнымі адносінамі польскае інтэлігэнцыі, але ня ўсіх інтэлігэнтаў, а толькі тае часьці, што мае фанабэрыю лічыць сябе лепшымі каталікамі, як сам Папа Рымскі. Паводле пагляду такіх, усё мусіць быць падпарадкавана інтарэсам дзяржавы, што заслугоўвае на назоў—бізантынізм, або інтарэсам народнасьці, што называецца шовініз-

мам. Дзеля таго, што ўгледзілі гэтыя „чэсныя“ палякі ў каталіцтве ўсходняга абраду перашкоду для сваей нячэснай мэты, вось чаму ім не падабаецца праца над злучэньнем хрысьціян.

Наша мэта чыста рэлігійная, ніякай палітычнай мэты ў сваёй працы мы ня маем. Наша справа — гэта справа Божая, збаўленьне душ.

Запраўды чэсныя палякі, што зьяўляюцца каталікамі ня толькі з назову, але з практыкі і перакананьня, ня толькі нам не перашкаджаюць, але памагаюць і самі працуюць. Спрыяюць нам, бо глыбока пераканаsuccesso, што справа Божая, справа сьвятая ня можа выйсьці на шкоду якомусь народу, а тым больш дзяржаве.

Дарагія браты, нязлучаныя праваслаўныя, бізантынізм і шовінізм ня толькі проці нас вядзе барацьбу, але і проці вас. Каб пераканацца, вазьмеце прачытайце, напрыклад, прамову ў Польскім Сойме 8 лютага с. г. пасла Хруцкага („Воскр. Чтеніе“ № 8).

Гэтыя-ж „чэсныя“ палякі, хворыя на цяжкую і заразьлівую хваробу, што называецца шовінізмам, якія нам перашкаджаюць у працы, ня думайце каб вам вельмі спрыялі. Дзеля таго прыпомню вам, дарагія нязлучаныя праваслаўныя, народную прыказку: „Не капай для другога ямы, бо сам у яе ўпадзеш“.

**3. „Мы будзем да апошніх нашых сіл,—так чытаем далей у артыкуле, — выяўляць „усю нізкасьць дзейнасьці“ ўсходняга абраду“...**

У адказ хай пазволена мне будзе спытацца ў аўтора артыкулу і яму спагадаючых, у чым яны бачаць нізкасьць нашае дзейнасьці? Кожная разумная дзейнасьць мае сваю мэту і сродкі да асягненьня мэты.

Мэта наша выразная — злучэньне ў адну сям'ю хрысьціян, ці можа наша мэта ёсьць нізкай, ганебнай?

Сродкі галоўныя да асягненьня гэтай запраўды сьвятой мэты, гэта: самаахвярная любоў, праца і малітва. Ці-ж гэтыя сродкі нізкія, нягодныя?

Пэўне, што ўсюды, дзе толькі ёсьць чалавек, там могуць быць пагрэшнасьці, недахопы. Таксама і паміж апосталамі сьвятой справы, знайшліся апосталы ня зусім сьвятыя, грэшныя. Кожны дрэнны паступак мы асуджваем і яго выракаемся, дзеля гэтага ня можна нам усім яго прыпісваць,—як было-б несправядліва блюзьнерскі паступак аднаго нязлучанага праваслаўнага сьвяшчэньніка прыпісваць усёй царкве нязлучанага праваслаўя.

На адно яшчэ зьвярну ўвагу нашых няпрыхільнікаў: вядучы барацьбу з намі і нашай працай, ня ўжывайце няпраўды і вымыслаў, фальш ёсьць злом, а калі сееце зло, дык ня можаце спадзявацца нічога добрага.

**4. „Вынікам распаўсюджваньня „ўсходняга абраду",—так піша далей аўтор артыкулу,—ёсьць варожасьць, ненавісьць, а дзейнасьць місіянэраў гэтага абраду расчышчае дарогу для няверы і бязбожжа".**

Гэты закід трэба падзяліць на 2 часьці: 1) вынікам распаўсюджваньня ўсходняга абраду ёсьць варожасьць, ненавісьць, 2) дзейнасьць місіянэраў гэтага абраду расчышчае дарогу для няверы і бязбожжа.

Адносна да першае часьці трэба зазначыць, што варожасьць вельмі часта бывае толькі з аднаго боку, з боку нязлучаных праваслаўных, асабліва з боку іх духавенства. Ня маючы на сваю абарону доказаў, чуючы сваю слабасьць, злуюць. Трудна, дзіця неразумнае таксама выяўляе сваё нездаволеньне і злосьць, крычучы і тупаючы нагамі, калі добрая маці адбірае ад яго нож, каторым яно можа скалечыцца,—таксама і мы, з любові да народу, не зважаючы ні на што, імкнёмся да зьнішчэньня вельмі шкоднае схізмы, адшчапенства, у імя злучэньня, сьвятой уніі.

На другую часьць закіду адкажу, што няма патрэбы расчышчаць дарогу ў нашым беларускім народзе для няверы і бязбожжа, бо яна ўжо расчышчана, а расчысьціла яе нязлучанае праваслаўе, расчысьціла дарогу для бязбожжа праз адсутнасьць рэлігійнае прасьветы і праз няруплівасьць духавенства, але яно, гэта бязбожжа, ужо прыйшло. Прыйшло нават хутчэй за нас, ня можна дзеля гэтага нас вінаваціць. Дзейнасьць-жа уніяцкага духавенства вядзецца на груньце неўраджайным, высушаным бязбожжам і цемраю рэлігійнаю, трудна дзеля гэтага спадзявацца адразу вельмі добрых вынікаў. Аднак ужо можна ўбачыць добры вынік працы злучанага з Сусьветнай Царквой духавенства. Возьмем, напрыклад, Альбэртын каля Слоніма і ваколіцы. Кожны бачыць, што вялікая ёсьць розьніца адносна да рэлігійнасьці паміж жыхарамі Альбэртына і ваколічных вёсак, напрыклад паміж жыхарамі Шыловіц, хаця там і ёсьць царква. Галоўная прычына гэта тая, што ўжо 8 гадоў працуюць у Альбэртыне Айцы Таварыства Ісусавага, вынікі працы ўжо відочныя.

**5.** Дзіўнае мы бачым закончаньне артыкулу: **„Хай-жа хутчэй споўняцца словы Эвангельля: „І будзе адно стада і адзін Пастыр". Тым Адзіным можа быць толькі Укрыжованы за нашыя грахі Пераможнік сьмерці—Хрыстос Збаўца".**

У адказ хай пазволена мне будзе спытацца ў аўтора артыкулу, хто-ж выракаецца Хрыста-Пастыра? Ані каталікі, ані уніяты яго не выракаюцца, скажу яшчэ больш, нават баптысты і ім падобныя сэктанты і гэрэтыкі вельмі хваляцца тым, што іх Пастырам—сам Ісус Хрыстос, а ня грэшныя сьвяшчэньнікі і япіскапы. Што-ж з гэтага вынікае, што ўжо настала адзінства, калі ўсе хрысьціяне лічаць Хрыста сваім Пастырам? О, не, гэтага не хапае, каб толькі на словах прызнаць Хрыста Пастырам.

Чаго-ж яшчэ трэба? Мо' скажаце патрэбна ячшэ вера, каторая нас злучыць у адно стада. Ці-ж хрысьціяне ўсіх цэркваў і розных сэктаў ня вераць у Хрыста? О, не, апрача веры яшчэ чагосьці не хапае, каб запраўды было адзінае стада. Не хапае аднаго кіраўніцтва, духоўнае ўлады. Пастыр авец кіруе оўцамі, а пастыр душ чалавечых мае кіраваць душамі.

Ісус Хрыстос ёсьць наш Пастыр, ён намі кіруе нявідочным спосабам праз свае ласкі і відочным—праз уладу духоўную.

Ісус Хрыстос ня можа сам кіраваць намі, а кіруе праз слугаў сваіх, і вось чаму сьвяшчэньнікі называюцца душпастырамі. Паміж душпастырамі для адзінства мусіць быць адзін, катораму ўсе душпастыры падпарадкаваюцца і праз гэтае падпарадкаваньне твораць адзінства. Найвышэйшы кіраўнік стада Хрыстовага ня кіруе гэтым стадам ад сябе, але ў імя Ісуса Хрыста, яго толькі заступае. Гэты найвышэйшы кіраўнік ёсьць толькі прыладай у руках Збаўцы. Дзеля гэтага ня можна казаць, што Папа Рымскі выключае сабою Хрыста. На гэты закід ужо адказаў, яшчэ нярааз прыдзецца да яго вярнуцца, бо ўвесь час гэта дэмагогічная дылема,—або Хрыстос, або Папа Рымскі,—паўтараецца.

Кажуць, што дурных ёсьць на сьвеце безьліч, але такіх, што паверылі-б няпрыхільнікам сьвятога злучэньня і іх неразумным вымыслам, мне здаецца, ня будзе шмат.

**Злучэнец.**



# Хроніка.

## I. У ПОЛЬШЧЫ.

**1. Луцк (КАП). Інстытут для падгатоўкі тых, хто прылучаецца да Сусьв. Царквы.** Я. Прав. Япіскап Адольф Шэлёнжэк з упаважненьня Я. Прав. Нунцыя Апостальскага ў Польшчы адкрыў нядаўна пры Духоўнай Сэмінарыі ў Луцку „Institutum Reformationis Ecclesiasticae (Інстытут паноўнае падгатоўкі царкоўнае для праваслаўных духоўных), што прыступаюць да лучнасьці з Каталіцкаю Царквою. Рэктарам Інстытуту Япіскап назначыў а. Яглоўскага, адначасна паручаючы яму ўлажэньне навучных праграмаў, унутранага рэгуляміну, назначэньне прафэсароў і падгатоўку памяшчэньня і таксама часоўні ўсходня-славянскага абраду.

**2. Вільня. Ахвяры на ратаваньне Віленскае Катэдры.** 2-га красавіка адбыліся зборкі дабравольных ахвяр на ратаваньне Віленскае Катэдры (Базылікі) ў цэлай Польскай Дзяржаве. Гэта справа ня толькі царкоўная, але і народная; Віленская Катэдра ў Польшчы ёсьць „другім Вавэлем“ бо там спачываюць польскія каралі. Дзеля таго ўва ўсіх ваяводзтвах арганізаваны ваяводзкія камітэты ратаваньня, ў паветах павятовыя, а па гмінах—парафіяльныя.

Кожны, паводле магчымасьці, мусіць прылажыць сваю руку да гэтай вельмі важнай і сьвятой справы.

**3. Слонім.** 26-га красавіка с. г. адправілася сьв. Літургія паводле ўсходня-славянскага абраду ў па-Бэрнардынскім касьцёле. Прысутных на набажэнстве ня было многа, бо кожны думаў, што, па прычыне паховін у гэты-ж самы дзень сьв. пам. а. Пратаігумэна Уладзіміра Піонткевіча, Усходняе Літургіі ня будзе. У наступны раз мае быць адпраўлена ў па-Бэрнардынскім касьцёле Сьв. Літургія ўсходня-славянскага абраду 30-га красавіка а 11½ гадз.

## II. ЗА ГРАНІЦАЙ.

**1. Горад Ватыкан (КАП). Найнавейшая статыстыка Францішканскага закону.** Паводле найнавейшых дадзеных афіцыяльных вестак, лік вучняў Сьв. Пранцішка з Ассыжу дайшоў да 22.870, (на 105 сяброў менш як Таварыства Ісусава). У гэтым ліку айцоў ёсьць 10.262, сэмінарыстаў і вучняў 4.311, рэшта—браты законныя. Закон мае з сваіх сяброў 11 архіяпіскапаў і 38 япіскапаў. Галоўным манастыром пранціщканцаў ёсьць манастыр Сьв. Антонія ў Рыме.

**3. Горад Ватыкан. Пры гробе Сьв. Іоана Златавуснага.** Ведама, што Сьв. Іоан Златавусны, выгнаны з Канстантынопаля, памёр на выгнаньні ў 407 годзе. Пасьля 31 году ягонае сьмерці, па загаду самога цэсара, вельмі ўрачыста перавязьлі сьвятыя мошчы да Канстантынопаля. Пасьля двох стагодзьдзяў перавязьлі Сьв. Іоана Златавуснага да Рыму, дзе і цяпер знаходзіцца ў храме Сьв. Пётры. У сваіх прыгожых казаньнях Сьв. Іоан Златавусны гэтак адзываецца аб першым япіскапе Рыму: „Князь і Карыфэй хору Апосталаў, Галава Апостальскай Калегіі; Стоўп і фундамант Царквы! Фундамант веры! Рыбак усяго сьвету, што з глыбіні памылкаў наша чалавецтва падносіш да неба!“ і г. д.“.

27-га студзеня с. г. у дзень ягонага сьвята, студэнты багасловы ўсходніх абрадаў, памаліліся пры гробе Сьвятога Апякуна Ўсходу, каб Бог багаславіў працу над злучэньнем хрысьціян.

**Япіскап Слоскан у Рыме (К.А.П.)** Да Рыму прыбыў 30.III. звольнены з бальшавіцкае турмы япіскап Балеслаў Слоскан. Ад імя Сьвятога Айца сустрэў яго на станцыі Пралат Каччыя-Домініоні з а. Конфолёньеры. У прывітальнай прамове Пралат Каччыя-Домініоні зазначыў, што Сусьветны Архірэй з ахвотай сам, калі-б мог, прывітаў-бы прыбыўшага на станцыі. Зараз-жа па прыезьдзе япіскап быў прыняты Папаю Рымскім на доўгай сардэчнай размове.

Я. Пр. Япіскап Слоскан атрымаў дастойны тытул асыстэнта папскага пасаду.

**4. Парыж.** Першы ігумэн Усходняе Місіі ў Альбэртыне а. Васіль Буржуа атрымаў нядаўна ад Прэзыдэнта Чэхаславацкае Рэспублікі, за яго працу ў Прыкарпацкай Русі, ордэр „Белага Льва“.

**5. Кітай. Усходняя Місія Айцоў Марыянаў у Харбіне.** А. Архімандрыт Фабіян (Абрантовіч), Апостальскі Адміністратар у Харбіне, адбыў у сьнежні 1932 году візытацыю унійных пляцовак у Кітаі. У Пэкіне наведаў Апостальскага Дэлегата ў Кітаі Архіяпіскапа Костантіні, а потым быў у Чанчын, Дайрэн, Т‘енсін, Ціндао і ў Шанхаі.

За апошнія часы ўсё больш ажыўляецца сярод расейскіх эмігрантаў у Кітаі імкненьне да уніі. Агульна бяручы расейцы ў Кітаі зразумелі, што можна быць у лучнасьці з каталіцкай царквой, прыняць унію і не выракацца сваей расейскай нацыянальнасьці.

Айцы Марыяне ў Харбіне маюць царкву ўсходня-славянскага абраду і 2 часоўні.

Вельмі многа ўвагі зьвяртаюць на выгадаваньне моладзі, маюць 1 гімназію для хлапцоў (1 уст. і 4 кл., 90 вучняў), 1 гімназію для дзяўчат (7 клясаў —120 вучаніц); 1 народную школу і прагімназію,—180 дзяцей.

Таксама і друкаваным словам Айцы Марыяне служаць сьвятой уніі. Выдаюць парасейску месячную часопісь „Католическій Временникъ“ і выдалі ўжо 12 брашурак аб унійнай справе.

Пры такой пастаноўцы справы можна спадзявацца ў недалёкай будучыні добрых вынікаў.

**6. Масква (КАП—22.III. с. г.). 33 царквы замкнёныя на Украіне.** На працягу апошніх 8 нядзель на Украіне замкнёна па загаду Саюзу Бязбожнікаў 33 хрысьціянскія храмы. У гэтых сьвятынях зроблены баракі для жаўнераў чырвонае арміі.

**7. Вена. КАП (1.IV. с. г.) Былы насьледнік саксонскага трону езуіт.** Прыехаў тутака даваць рэколекцыі ў кляштары Sacre Coeur а. Георгі Т. І. б. насьледнік саксонскага трону і князь Місьні.

Князь Георгі радзіўся ў 1893 годзе, як сын пазьней караля Фрыдрыха-Аўгуста Саксонскага. У часе сусьветнае вайны служыў у штабе 3-й нямецкай арміі, а пасьля ў 12 корпусе, на становішчы камандзера батальёну і палку. Пасьля рэвалюцыі, якая адабрала трон таксама і роду Вэттэнаў, пасьвяціўся багаслоўскай навуцы. Вучыўся ў Тюбіндзе і Вроцлаўлю, а 15-га ліпня 1924 году быў пасьвячаны ў сьвяшчэньнікі. Пасьля вучыўся яшчэ ў Інсбруку, дзе ў 1925 годзе ўступіў у Таварыства Ісусава.

**Фарысэйства пасла сацыяліста (КАП).** Ведамы сваімі варожымі выступленьнямі проці сусьветнае Царквы, сацыялістычны пасол Чапінскі, карыстаючы з аказіі дэбатаў над буджэтам міністэрства заграгічных справаў, ізноў павёў атаку проці польскіх япіскапаў і Апостальскага Пасаду. Соляю ў воку п. Чапінскага ёсьць справа ўсходняга абраду. Гэты патэнтаваны абаронца пакрыўджаных, што разам з іншымі сябрамі ППС стварыў праект аб наданьні тэрыторыяльнай аўтаноміі народным меншасьцям, выяўляе жах, што польскі народны інтэрас можа мець шкоду на ўсходніх землях па прычыне ўнійнае акцыі. Абман тут зусім выразны, каб верыць у шчырасьць гэтага страху. Як можна дамагацца далёка ідучых палітычных правоў, калі вядзецца барацьба проці натуральнага права кожнага чалавека да вызнаваньня Бога ў роднай мове і паводле абраду, якога ён жадае.

Характарным зьяўляецца тое, што ў часе свае прамовы пасол Чапінскі ўжываў зварот „пан біскуп“. Дагэтуль так тытулавалі япіскапаў маламестачковыя жыдкі. Ведама, што ад блізкага суседзтва чалавек можа заразіцца.

**Колькасьць каталіцкага духавенства на сьвеце.** Паводле найнавейшае статыстыкі ўва ўсім сьвеце агулам ёсьць 321.000 каталіцкіх сьвяшчэньнікаў, у гэтым ліку 64.000 манахаў і 257.000 сьвецкіх. З усяго ліку на Эўропу прыпадае 252.000, на Амэрыку 51.500, на Афрыку 4.800, Азію 10.500 і на Аўстралію 2.200 сьвяшчэньнікаў. Трыццаць гадоў назад статыстыка налічвала 230.000 каталіцкіх сьвяшчэньнікаў. (КАП).

**Масавыя навярненьні ў Індыі.** Паводле вестак з Бомбэю, апошнім часам, за прыкладам Мар Іваніоса, выказаў жаданьне прылучыцца да Каталіцкае Царквы яшчэ адзін якубіцкі япіскап разам з 30-ма сьвяшчэньнікамі і 20-ма тысячамі верных, што складаюць каля 100 прыходаў.

**Загрэб. Езуіты ў Югаславіі.** Па прычыне тэндэнцыйных і недакладных вестак, перадаваных варожаю да Езуітаў прэсаю аб лічэбнасьці гэтага ордэну ў Югаславіі, а. Віктар Лапацін на шпальтах люблянскага „Slovenca“ паведамляе, што югаславянская правінцыя Таварыства Ісусавага налічвае 77 айцоў, 48 клерыкаў і 67 братоў-паслушнікаў, а разам 192 чалавекі. Ува ўсёй правінцыі няма ніводнага гішпанскага езуіта, ня гледзячы на плёткі аб гэтым. У асьвятленьні гэтага паведамленьня ўсе нападкі на Езуітаў у Югаславіі з боку прэсы, парлямэнту, „Сокала“ ды розных урадовых і паўурадовых арганізацыяў прымаюць пэўны выгляд. Няўжо-ж найбольшая небясьпека пагражае Югаславіі з боку гэтых 192 Езуітаў? (КАП).

**Пратэст Ватыкану проці антыхрысьціянскіх паштовых марак у СССР.** У ватыканскіх колах ходзіць чутка, што Апостальская Сталіца зробіць пэўныя захады ў Лізе Народаў і ў сусьветным паштовым саюзе проці выпуску бальшавікамі сэрыі паштовых марак, прызначаных для антыхрысьціянскай пропаганды. (КАП).

**Першы індакітайскі япіскап.** Магчыма што да ўрачыстасьцяў, у якіх у надходзячым Юбілейным Годзе вазьме ўдзел Сьв. Айцец, будзе далучана высьвячэньне першага індакітайскага япіскапа Яна-Баптыста Тонга, сьвецкага анаміцкага духоўніка (КАП).



# Календар

на м—ц Красавік, 1933 г.

| Стары стыль. | | | Новы стыль. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
| 1 | П | Марыі. Вялікая | 14 | P | Justyna. Wialiki |
| 2 | С | Тытуса. Вялікая | 15 | S | Wialik. Anastazaha |
| 3 | Н | **Вялікдзень** | 16 | N | **Wialikdzień** |
| 4 | П | **2 дз. Вялікагня** | 17 | P | **Druhi dz. Wialikadnia** |
| 5 | А | **3 дз. Вялікадня** | 18 | A | Apolona |
| 6 | С | Еўтыхія | 19 | S | Tymona |
| 7 | Ч | Грыгора бп. | 20 | Č | Wiktara |
| 8 | П | Ірыдыона | 21 | P | Anzelma |
| 9 | С | Еўпсыхія | 22 | S | Kaja |
| 10 | Н | **Цярэнція. Правод.** | 23 | N | **Prawod. Juraha** |
| 11 | П | Раданіца. Ант. | 24 | P | Fidelisa |
| 12 | А | Васіля | 25 | A | Marka Ewanhielisty |
| 13 | С | Артымона | 26 | S | Kleta i Marcelina |
| 14 | Ч | Марціна | 27 | Č | Zyty |
| 15 | П | Арыстарха | 28 | P | Paŭła ad Kryža |
| 16 | С | Агаты | 29 | S | Piotry z Werony |
| 17 | Н | **Сымона** | 30 | N | **Kaciaryny** |
| | | | | | TRAWIEŃ |
| 18 | П | Макара. Ерэміі | 1 | P | Filipa i Jak. |
| 19 | А | Апанса. Зоі | 2 | A | Atanazaha |
| 20 | С | Цімоха | 3 | S | **Stanisławy. KKP.** |
| 21 | Ч | Януарага | 4 | Č | Znachod św. Kryža |
| 22 | П | Тодара | 5 | P | Ireny. Piusa |
| 23 | С | Юр'я влмч. | 6 | S | Jana ŭ aleju |
| 24 | Н | **Савы муч.** | 7 | N | **Damiceli** |
| 25 | П | Марка | 8 | P | Stanisława b. |
| 26 | А | Базыля | 9 | A | Hryhora z Naz. |
| 27 | С | Сымона | 10 | S | Izydara |
| 28 | Ч | Ясона і Максіма | 11 | Č | Mamerta |
| 29 | П | 9 муч. з Кыз. | 12 | P | Pankrata |
| 30 | С | Якуба ап. | 13 | S | Serwacaha. |

Рэдактар: а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.